Год II | Серада, 11 студня 1922 г. | № 6 (15)

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ:
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.



*Вільня*, 11 *Студня 1922 г.*

Не пасьпелі бальшавікі ліквідаваць паўстаньня на Украіне і Кубані, як паўстаў народ ў Карэліі, пачаліся бунты на Дальнім Усходзе, ў Заходняй Сыбіры і ў самым цэнтру Расеі — у Тамбоўскай, Саратаўскай і Царыцынскай губэрнях. Адным словам, уся Саўдэпія зрабілася тэатрам ваеннай акцыі з некалькімі ўнутранімі фронтамі.

Пан Троцкі не пасьпевае ліквідаваць адзін баевы фронт, як з'яўляецца другі, трэці і так да безканечнасьці...

І гэта робіцца ў той час, калі на ўсясьветнай канфэрэнцыі ў Каннах пастаўлена пытаньне аб прызнаньні савецкай уласьці ў Саўдэпіі, пытаньне цесна зьвязанае з сусьветным палітычна - эканамічным жыцьцём.

Дык няўжо-ж гэтыя народныя бунты, бязпрарыўная крывавая, ня гледзячы на рэпрэсыі і казьні, барацьба народа з савецкай уладай служыць для Лейд-Джорджа і іншых вяршыцеляў судзьбы міра наглядным даказацельствам, што палепшаньне палітычна-эканамічнага жыцьця немажэбна, пакуль істнуюць савецкія ўрады.

І калі ўсе гаспадарствы прызнаюць справядлівасьць гэтага пагляду, калі палітыкі ўсяго міра прыдуць да згоды на конта расейскага пытаньня—уласьць саветаў зьнікне надоўга з гарызонту чалавечага жыцьця.

Тады асвабаджэньне нашых братоў—беларусаў з пад іга маскоўшчыны будзе пытаньнем навет не дня, а аднэй гадзіны, бо Савецкая Беларусь штучна трымаючаяся, пры дапамозе маскоўскіх штыкоў, ня мае жаднага фундамэнту для свайго істнаваньня.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

ХАРКАЎ 10. І. (А. В.). Як выясьняе газэта „Пралетары“ літоўцы не лічацца на Украіне чужаземцамі, і праз гэта ня могуць падлежаць дэкрэту аб звальненьні чужаземцаў з арміі.

На падставе ўмовы Літоўска-Украінскай, літоўцы могуць зьвярнуцца на сваю бацькаўшчыну толькі за згодай на гэта збоку Літоўскага прадстаўніка на Украіне. Апроч гэтага сябры камуністычнай партыі мусяць мець пазваленьне, на выезд з Украіны, ад партыі.

МАСКВА 10. І. (А. В.). Транспартны крызыс у Сыбіры дашоў да катастрофы. Вывязеньне ў Цэнтральную Расею збожжа застанавілася.

МАСКВА 10. І. (А. В.). Вайсковые дэлегаты на савецкім з'ездзе прынялі пастанову аб мабілізацыі камуністаў, радзіўшыхся ў 1899—1900 гадох. Гэта робіцца дзеля таго, каб усіліць чырвоную армію элемэнтамі камуністычнымі.

МАСКВА 10. І. (А. В.). Радэк у надрукаваным у „Праўдзе“ артыкуле сьведчыць, што ангельскі урад узамен за прызнаньне Саветаў de jure, жадае атрымаць права на эксплаатацыю усіх зялезных дарог і расейскіх портаў аж да часу адбудовы гаспадаркі ў цэлях гарантыі выплаты даўгоў Расеі.

РЫГА 10. І. (А. В.). Пасол Мікша засьведчыў, што па прыездзе ў Рыгу польскага пасла Едко, настаў час палепшэньня стасункаў польска-латвійскіх. Есьць надзея аб завязаньні стасункаў эканамічных паміж Польшчай і Латвіей.

## Да выбараў у Сойм.

„Gazeta Krajowa“ паведамляе, што эндэкі правелі у сойм ад 35 да 40 дэпутатаў з 107. Левіца (Odrodzenie, P. P. S. z Pol. Str. Lud.) будзе мець у будучым сойме 30—35 мандатаў.

* * *

У горадзе Вільне лік выбаршчыкаў 79.350 з іх галасавала 43.490 (55 проц.). За 1 выбарны сьпісак (ласнікі дамоў) галасавала 257, за 2 (партыя безпартыйных)—1879, за 3 (эндэкі)—33.276. за 4 (Odrodzenie)—356, за 5 (P. P. S.)—5216 і за 6 (Demokraci)—2508.

* * *

У Ашмяне, згодна першаму падшчоту „Rady Ludowej“ атрымаюць 7 мандатаў, P. C. L.—2 манд., P. C. K. W. —2 канд.

* * *

У павеце Віленскім галасавала 70 проц. Найбалей галасоў атрымалі „Radu Ludowe“, потым P. S. L., P. C. K. W. і „Odrodzenie“.

* * *

У павеце Троцкім найбалей галасоў падана за P. S. L.

* * *

У павеце Ашмянскім галасавала балей як 60 проц. Найбалей галасоў падана за „Rady Ludowe“.

* * *

У павеце Лідскім найбалей галасоў атрымала P. C. K. W.

* * *

У павеце Васілiскім найбалей галасоў падана за дэмакратаў.

* * *

У павеце Сьвенцянскім найбалей галасоў падано за „Rady Ludowe“, потым за „Odrodzenie“.

* * *

Па атрыманым весткам беларусы галасавалі паўсюды, літоўцы галасавалі ў Эйшышках і Сьвенцянах, не галасавалі ў Алькеніках і Аранах.

* * *

У павеце Браслаўскім галасавала ад 60 да 80 проц.

## Пытаньне аб Срадковай Літве.

„Kur. Por.“ надрукаваў такую заяву: „Пасьля выбараў, склікаены ў Вільні Сойм, вышле дэлегацыю для зносін з Варшаўскім Соймам на конта формы далучэньня Срадковай Літвы да Польшчы.

Усе саабшчэньня, ацтрыманыя міністэрствам загранічных справаў з' за граніцы паказываюць на тое, што найбалей прыемным, з'яўляецца далучэньне Сродковай Літвы на прынцыпе аўтаноміі.

На гэтую плятформу Французкі Урад дае сваю згоду. Іншыя пастановы віленскага пытаньня вызавуць пратэст з боку членаў Лігі Нацыі.

Не гледзячы на тое, што віленскія жыды адмовіліся ад учасьця ў выбарах у Віленскі Сойм, усё-ж трэба чакаць, што яны зробяць дэклярацыю, у якой выскажуцца за далучэньне Вільні да Польшчы.

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкаў высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымывацца, то высылка газэты будзе затрымана.*

Кнтора газэты „Раніца“ паведамляе, што магазынам выпісываючым газэту дзеля прадажы, кантора будзе рабіць 30 проц. уступкі.

